© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

14 – 20 студзеня 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 50 руб. (50 000 руб.)
№ 2 (247)

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 15 студзеня | | Нядзеля, 16 студзеня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уночы | -5 – -8°C | -5°C | -5 – -10°C | -6°C |
| Удзень | -3 – -7°C | -5°C | -2 – -6°C | -1°C |

МАЛАДЗЕЧНА

## Ветэраны–дэмакраты супраць саюза з Расеяй

У сераду на працягу 1,5 гадзіны прайшла акцыя мясцовай філіі Беларускага Дэмаб'яднання «Ветэран». Больш за дзесяць чалавек 60–70–гадовага веку паўколам абступілі камень на Цэнтральнай плошчы, пастаўлены тут у гонар пакутнікаў за волю і незалежнасць Беларусі. Затым яны сінхронна запалілі ў адмысловых слоіках загадзя падрыхтаваныя свечкі.

Цікаўным старшыня філіі **Тадэвуш Шусіцкі** тлумачыў: іхнэе стаянне са свечкамі з'яўляецца маладзечанскім працягам дня нацыянальнай ганьбы, што быў праведзены напрыканцы лістапада ў сталіцы.

Супрацоўнікі міліцыі, якія аб'язджалі плошчу, нават не пацікавіліся людзьмі, што сабраліся ля каменя. Гэтак было ўжо на аналагічных пікетах у Слуцку, Салігорску напярэдадні Новага года. У выніку маладзечанская акцыя была завершаная без затрыманняў і інцыдэнтаў.

*Алесь СЕРГІЕВІЧ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Новы гаспадар "Беразінскага"

На торфабрыкетным заводзе ў мястэчку Беразінскае змяніўся дырэктар – **Баляслаў Гаўрыс** пайшоў на пенсію. Ягонае месца заняў былы галоўны механік завода **Станіслаў Кулеш**.

Калі б існавала званне "ганаровага грамадзяніна раёна", Б. Гаўрыс, несумненна, даўно атрымаў бы яго. Аб'екты сацкультбыту Беразінскага пабудаваныя за сродкі завода, вядомы ў краіне футбольны турнір, мясцовае тэлебачанне і многае іншае мелі фінансавую падтрымку торфабрыкетнага.

У сённяшні няпросты час перад С. Куляшом стаяць іншыя задачы. Захаваць бы тое, што ёсць.

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

## У Мядзельскага раёна юбілей

Заўтра спаўняецца 60 год з дня ўтварэння Мядзельскага раёна. Тады ён быў яшчэ ў складзе Вілейскай вобласці.

Жыло ў навапечаным раёне каля 32 тысяч чалавек, непасрэдна ў райцэнтры – 1290. Было ў Мядзеле на той час 2 млыны, 2 пачатковыя школы, клуб на 150 месцаў, бальніца на 15 ложкаў, паштова–тэлеграфнае аддзяленне.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Немаўлятка ўшануюць на 60–годдзе

У райвыканкоме створаны арганізацыйны камітэт на чале з намеснікам старшыні **Барысам Бароўскім** – з нагоды 60–годдзя раёна. 15 студзеня пачаўся адлік біяграфіі Маладзечанскага раёна. Асноўныя мерапрыемствы пройдуць у маі–чэрвені пасля пасяўной. У прыватнасці, прадугледжаныя і ўшанаванне першынца 2000–га года (немаўлятка нарадзілася ў Беразінскім), і конкурс на лепшы інтэрнат.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## На «Зеніце» будуць свае садавіна і гародніна

Старшыня Вілейскага РАПА **Яўген Сініла** пацвердзіў, што на Вілейшчыне аб'ядналіся калгас "Бальшавік" і завод "Зеніт". Плануецца, што сімбіёз гэтых прадпрыемстваў прынясе добрыя вынікі.

"Зеніту" за тое, што ён згадзіўся ўзяць да сябе на баланс стратны калгас, дадзеныя льготы. У прыватнасці, завод на 2 гады вызвалены ад некаторых падаткаў.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## "Маскоўскі" грып косіць немцаў

Вірусы інфекцыйных хвароб найчасцей атрымліваюць імёны па месцы выяўлення. Вось і атрымліваецца, што "маскоўскі" "косіць" немцаў, "сіднейскі" – англічанаў. Які дойдзе да нас – невядома. Пачатак масавай захворваемасці ў рэгіёне чакаецца праз тыдзень.

Галоўны ўрач РЦГЭ Маладзечна **Віктар Белік** мяркуе, што вірус відазменіцца: аслабне ці, наадварот, узмацніцца.

Пакуль жа ўрачы традыцыйна раяць зрабіць стаўку на вітаміны, прынамсі, ужываць часнок.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Украінская «Кохана» з Маладзечна

Старшыні таварыства ўкраінцаў "Краяны" **Мікалаю Слабадзюку** ўручаная грамата за ўклад у развіццё нацыянальных культур.

М. Слабадзюк у Мінску ўзяў удзел у канцэрце, прысвечаным 5–годдзю стварэння рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур: выканаў украінскую песню "Кохана".

– З такім голасам у тэатры оперы і балета пець! – адзначалі прысутныя.

*Надзея ЛІСАВА.*

ТАЛЕНТЫ ВІЛЕЙШЧЫНЫ



Таня Харлінская на калядным канцэрце ў Вілейцы.
ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

# ЗОРНЫ ЧАС НАБЛІЖАЕЦЦА

*ВІЛЕЙКА. Таня Харлінская ва ўзорную дзіцячую эстрадную студыю "Экспромт" прыйшла, калі вучылася ў пятым класе. Пасля году заняткаў з педагогамі Алегам і Нэлі Зайцавымі брала ўдзел у фінале вядомага ў свой час конкурсу "Тэлебом", дзе стала лаўрэатам.*

У апошнім калядным канцэрце, які "Экспромт" правёў на сцэне гарадскога Дома культуры ў Вілейцы, Таццяна зрабіла пяць сольных выхадаў.

– Таня вельмі добра вучыцца, паспяхова займалася харэаграфіяй. Яна чалавек, які шмат чым захапляецца. Пачаў яе больш загружаць – адразу заўважыў творчы рост. А гэты канцэрт стаў яе пікам – зорны час набліжаецца, – напаўжартам, напаўсур'ёз сказаў Алег Зайцаў.

Эстраднай студыі 11 год. Тры гады як яна атрымала званне ўзорнай. Сёння тут займаецца паўтара дзесятка чалавек. І калі ўсе збіраюцца на рэпетыцыю ў невялічкі пакойчык студыі ў гарадскім Доме культуры, то і месца на ўсіх не хапае. Але ці гэта перашкода для маладых?

*Мікола ГАЙДУК.*

## Фёдар Гур прапагандуе

Загадчык духавога аддзялення Вілейскай школы мастацтваў, кіраўнік узорнага дзіцячага духавога аркестра **Фёдар Гур** узнагароджаны спецыяльнай прэміяй "Работнікам установ культуры і мастацтва за дасягненні ў эстэтычным і маральным выхаванні беларускага народа і прапаганду духоўных каштоўнасцяў у галіне мастацкай самадзейнасці".

У ліку першых лаўрэатаў спецыяльнай прэміі Мінскага аблвыканкома "Па стымуляванні творчай працы ў галіне культуры і мастацтва" адзначаная майстар–метадыст Вілейскага Дома рамёстваў **Алена Піразева** (Даўгінава).

*Юрый КАРПІЦКІ.*

АКЦЫЯ

# «Жадаем «РГ» такіх чытачоў, як мы»,

## гавораць Вольга Кірэева і яе сябры




Вольга Кірэева з падарункам для «РГ».
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Нашая чытачка, актрыса народнага тэатра **Вольга Кірэева** прапанавала ў падарунак «РГ» 3–літровую бутэльку французскага каньяку «Dujardin». Мы адчувалі, што гаспадыні цяжка (не толькі па вазе) дарыць такую каштоўную рэч. Таму дэлегіравалі аўтара матэрыялу да Вольгі і яе сяброў – каньяк быў знішчаны. Так у рэдакцыі з'явілася пустая бутэлька, што стала падставай для адкрыцця ў "РГ" музея цікавых рэчаў. Згадзіцеся, нячаста можна сустрэць 3–літровую бутэльку ў 70 сантыметраў вышынёй.

Апошнія 2 гады Вольга аддае перавагу «Рэгіянальнай газеце». А год таму сама стала героем публікацыі. Мы пісалі, як Кірэева выдатна іграе пацука ў казачных пастаноўках тэатра.

– Апошнім часам у тэатры я іграю французанак: Валянціну ў «Бэзавай сукенцы Валянціны» (Франсуаза Саган), Мары ў «Генералах у спадніцах» (Жан Ануй), – расказвае Вольга. – Летась у горад завіталі французы, трапілі на спектакль. І пасля падарылі мне «Dujardin». Так што гэта сапраўдны французскі напітак.

У актрысы шмат цікавых рэчаў. Сяброўка з'язджала жыць за мяжу і падарыла попельніцу–унітаз. Яшчэ адна падарыла званы азадак з вушамі. Што гэта можа сімвалізаваць, актрыса і па сённяшні дзень не ведае, таму праз газету звяртаецца да чытачоў па дапамогу – «Што гэта значыла б?».



**За лепшае тлумачэнне Вольга прадугледзела прыз. Так што пішыце тлумачэнні на адрас рэдакцыі з пазнакай: «для Вольгі Кірэевай».**

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



*КОЛА ЖЫЦЦЯ*

# Усходні задыяк не такі просты, як многім здаецца

Ён складаецца з 5 цыклаў па 12 год. Кожны год характарызуецца пэўнай жывёлай, і хаця праз 12 год звер паўтараецца, ён не зусім той: у поўным крузе аказваюцца 5 розных Пацукоў і г. д. Справа ў тым, што кожны звер за 60 год 5 разоў мяняе сваю стыхію: дрэва, агонь, зямля, метал і вада. Менавіта стыхія і надае сваё адценне характару адной і той жа жывёлы.

**ДРЭВА** – пладавітасць, моц у ведах, шырыню далягляду (разгаліноўваецца і разрастаецца), глыбокія карані (традыцыйнасць, павага да звычаяў).

**АГОНЬ** – актыўнасць, запал душы, эгаізм (спальвае ўсё на сваім шляху).

**ЗЯМЛЯ** ("карміліца") – клапатлівасць, альтруізм, але і сухасць (скала), і бесхрыбетнасць (гразь).

**МЕТАЛ** – сілу волі, цягавітасць, здольнасць супрацьстаяць ударам лёсу (пругкасць, трываласць).

**ВАДА** – узаемаразуменне (пранікае ва ўсе шчыліны), прыстасавальнасць да ўмоў (прымае форму сасуда), прымірэнне (растварае і змешвае), буйную сілу эмоцый (змятае ўсё, калі праўе плаціну).

Кожнай стыхіі прысвоены свой КОЛЕР: **дрэву – сіні, агню – чырвоны, зямлі – жоўты, металу – белы, вадзе – чорны.**

Поўны 60–гадовы круг пабудаваны так, што, лічачы ад яго пачатку (да прыкладу, год 1744, 1804, 1864, 1924, 1984), кожныя два суседнія гады (цотны і няцотны, належаць да адной і той жа стыхіі, але з іх **НЯЦОТНЫ "ІНЬ"** – пасіўны, з недахопам энергіі, "жаночы"; а **ЦОТНЫ "ЯН"** – актыўны, з лішкам энергіі, "мужчынскі". Стыхія "мужчынскага" года мае больш інтэнсіўнае адценне колеру. Так, дрэва можа быць сіняе ("ян") і блакітнае ("інь"); агонь – адпаведна чырвоны і ружовы; зямля – жоўтая і светла–жоўтая, метал – ярка–белы і матавы, вада – чорная і шэрая. Можна сказаць, што "ян" характарызуе лішак усіх якасцяў стыхій, а "інь" – іх недахоп.

Цыкл, у якім мы цяпер жывем, пачаўся ў 1984 годзе і працягнецца да 2044 года.

*НАРОДНЫЯ ПРЫМЕТЫ*

# Пасля Вадохрышча будзе лета

*На дрэвах пушысты іней – заўтра чакаецца яснае марознае надвор'е.*

***Галкі і вароны беспрастанку крычаць – будзе снегапад, а можа, і завіруха.***

*Вераб'і паселі на дрэвах ці хатах – будзе снегапад без ветру, а калі ўсе хорам цвіркаюць – чакайце адлігу.*

**14 студзеня** – Стары Новы год у вёсцы быў раней больш вядомы як **ВАСІЛЛЕ**, бо па святцах 1 студзеня (па старым стылі) быў дзень Васіля Вялікага. ***Туманы напярэдадні Васіля – на ўраджай. Зорная Васілёва ноч – багатыя палеткі на лета. Калі іней на Васіля, будзе саломы болей, чым хлеба. Яснае надвор'е ў гэты дзень абяцае добры ўраджай ільну.***

**19 студзеня – ВАДОХРЫШЧА** – апошняе свята калядная цыклу: *"Святое Хрышчэнне і Калядам прашчэнне"*. На Вадохрышча прыпадалі самыя вялікія маразы, пасля якіх зіма паступова пачынала паварочваць на лета. У народзе казалі: ***"Трэшчы не трэшчы, прайшлі Вадахрэшчы – не к Ражству, а к Пятру"***, маўляў, большых маразоў ужо не будзе. Вадохрышча было днём, па якім арыентаваліся ў вызначэнні будучага надвор'я (***на Вадохрышча вельмі сцюдзёна – у жніво вельмі горача***), спрабавалі прадказаць і якасць будучага ўраджаю (***на Вадохрышча дзень цёплы – будзе хлеб цёмны***).

*ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ*

## Усё зашкодзіць, што занадта, нават пірагі



## Салата «Мінская»

***50 г сушаных грыбоў, 3–4 бульбіны, 2 цыбуліны, 150 г квашанай капусты, 100 г маянэзу.***

Вараныя грыбы і бульбу парэзаць скрылькамі, рэпчатую цыбулю – дробнымі кубікамі. Квашаную капусту перабраць, буйныя часткі здрабніць. Усё старанна перамяшаць, заправіць маянэзам. Упрыгожыць варанымі грыбамі і зелянінай.

## Мяса «Пальчыкі абліжаш!»

***Мяса – 150–200 г, цыбуля – 3–5 галовак, морква – 2–3 штукі, масла – 1 вялікая лыжка, тлушч для абсмажвання.***

Для гэтай справы лепш за ўсё выкарыстоўваць ялавічыну або кураціну. Мяса павінна быць нятлустае.

Асобна і па чарзе абсмажыць да залацістага колеру цыбулю, нарэзаную кольцамі, моркву, нарэзаную саломкай, і мяса – дробнымі кавалачкамі. Кожны абсмажаны прадукт выкласці на асобную талерку. Потым узяць каструлю з тоўстымі сценкамі і ўлажыць слаямі падрыхтаваныя прадукты: мяса, цыбуля, морква; мяса, цыбуля, морква і г. д. Зверху пакласці вялікую лыжку масла, спецыі, пасаліць. Закрыць накрыўкай, паставіць на самы маленькі агеньчык на гадзіну–паўтары.

На гарнір – бульба, макароны.

## Труфелі

***250 г сухога малака*** (можна малочную сумесь для дзяцей)***, 1 пачка какава–парашку, 400–500 г цукру, 3/4 шклянкі вады падагрэць, каб усё распусцілася, дадаць 100 г масла,*** размяшаць. Як астыне, разлажыць у формачкі і паставіць у холад, затым абсыпаць какава–парашком.

*Падрыхтавала*
*Наталля БРОЎКА.*

*ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ*

# Адносна новы спосаб кадзіравання



Гісторыю раскaзаў знаёмы, яму, у сваю чаргу, ягоны знаёмы. Словам, гарантый на сапраўднасць няшмат. Хаця на свае вочы бачыў мужыка, якому пашчасціла меней – у родную вёску ён так і не вярнуўся (сышоў, праўда, з родных мясцінаў не па п'яні, а з прычыны душэўнай хваробы).

Паехалі два сябры з Маладзечна ў Ліду на машыне па піва (было некалі, што лідскае піва знікла з продажу, а мясцовага яны не хацелі). Справа была ўвосень, пакрысе пачынала брацца на мароз. Кіламетраў праз 20 раптам бачаць – на ўзбочыне ляжыць працаўнік вёскі з веласіпедам побач. Аматары піва трапіліся сумленныя, таму захваляваліся пра здароўе "першага сустрэчнага": можа, машына таго збіла, дапамога патрэбная...

Выйшлі. Падыходзяць, а ён п'яны да непрытомнасці. Мусіць, заснуў падчас руху на сваім транспарце дый зваліўся. Добра, што не на праезную частку. Вырашылі мужыка выручыць – падвезці яго да бліжэйшай вёскі. Паколькі галавой ён ляжаў якраз у той бок, то справядліва вырашылі, што падвязуць таго, хутчэй за ўсё, у родныя мясціны.

Загрузілі яго ў салон, ровар неяк у багажнік прыладзілі і паехалі. Праехалі кіламетраў 70 (можа, і 140, бо на спідометр, зразумела, не глядзелі ў той момант), магнітола музыку грае – чуюць, нехта падпявае. Тут толькі дайшло да сябрукоў, што забыліся на свайго спадарожніка.

Той быў практычна ў тым самым непрытомным стане. Вяртацца далёка, у Ліду везці (каб на адваротным шляху высадзіць) таксама не выпадала, бо разам з півам планавалі свае справы пракруціць (гэтым мелася на дзень–другі "завіснуць" у горадзе). Пасля невялікага роздуму вырашылі пакласці п'янага ля бліжэйшай вёскі (каб таго знайшлі хутчэй).

Выпала, што вярталіся ў Маладзечна толькі праз тыдзень, а то і болей. Натуральна, згадалі пра таго мужыка, вырашылі наведаць "хрэсніка" – ці жывы хаця б. Успомнілі вёску, нейкім чынам знайшлі патрэбны дом, а там жанчына бялізну вешае.

– А дзе Вася?

– Ды на рабоце. А што хацелі?

– Мы ягоныя добрыя знаёмыя, заехалі, каб па чарачцы прапусціць.

– Што вы, Вася не п'е. Завязаў нядаўна.

– А што хаця здарылася?

– Ды ён на тым тыдні паехаў да сваякоў на вяселле і так напіўся, што нічога не памятае, але ачуняў на нейкім веласіпедзе пад Лідай. Вось ад таго часу і не п'е.

***Сямён РАБІНОВІЧ.***

*ПРОСТА АНЕКДОТ*



У астравецкай краме падыходзіць да хлопца жанчына ў гадах:

– Вы такі падобны на майго сына, што загінуў. Ці не можаце аказаць мне ласку?

– Ну, давайце.

– Вы ведаеце, звычайна, калі я з ім рабіла пакупкі і ўжо стаяла ля касы, ён заўсёды (у апошні момант) раптам крычаў: мама, а мы ж марожанае не купілі! І бег па марожанае. Я заўсёды гэта ўспамінаю. Крыкніце, калі ласка, так сама ля касы.

– Калі ласка.

Падыходзяць да касы, выстойваюць невялікую чаргу і ля касіркі хлопец крычыць:

– Мама, а мы ж марожанае не купілі!

– Ну, бяжы, сынок, вазьмі.

Хлопец бяжыць у глыбіню крамы. Жанчына – касірцы:

– Ну, я пайду, сынок заплаціць.

*ГАРАСКОП 17–23 СТУДЗЕНЯ*



***Авен (21.03–20.04)***

Вы будзеце схільныя да запальчывасці, калі не сказаць агрэсіўнасці. Трымайце сябе ў руках, бо можа быць разбураная тая кволая раўнавага, якой вы дасягнулі.



***Цялец (21.04–21.05)***

Максімальна праявяцца вашыя дыпламатычныя таленты, і вы з лёгкасцю дасягнеце ўсяго, чаго захочаце. Жанчыны будуць асабліва прывабныя, і ім "не пазбегнуць" з'яўлення новых прыхільнікаў.



***Блізняты (22.05–21.06)***

У гэты перыяд вы будзеце як чысты сасуд, які можна запоўніць чым заўгодна. Асцярожней з усялякімі наваўвядзеннямі, не паддавайцеся спакусе, можаце трапіць у пастку.



***Рак (22.06–23.07)***

У многіх магчымая паездка або нават невялікае падарожжа асабістага характару. Можаце праявіць сябе як сапраўдны інтрыган, і яшчэ невядома, чым гэта для вас небяспечна.



***Леў (24.07–23.08)***

Праявіцца ўпартасць у дасягненні мэты нетрадыцыйным шляхам. Вы будзеце (што вам неўласціва) хітрыя і недаверлівыя. Вашым ворагам лепш трымацца далей – вы будзеце бязлітасныя.



***Дзева (24.08–23.09)***

Цяжкасці працягнуцца літаральна да 20–га студзеня. Некаторыя сувязі будуць разбураныя, чакаюць праблемы ў шлюбе і небяспека на дарогах.



***Шалі (24.09–23.10)***

Магчыма, паступленне грошай па нейкіх мінулых кантрактах. Калі прыслухаецеся да парады – праяўляць у гэты час максімальны альтруізм і клопат пра людзей – вернецца ў сто разоў.



***Скарпіён (24.10–22.11)***

Перыяд унутранай барацьбы і перажыванняў. Магчымыя здрадніцтва і з'яўленне моцных і небяспечных ворагаў. Толькі ад чысціні вашых унутраных установак залежыць добрае выйсце з цяжкага становішча.



***Стралец (23.11–21.12)***

Будзеце схільныя да прыступаў дэпрэсіі, дрэннага настрою. Другая палова перыяду, наадварот, вельмі добрая як для пачынанняў, так і для высвятлення стасункаў.



***Казярог (22.12–20.01)***

Апошні перыяд знаходжання Сонца ў вашым знаку, яно прынясе добрую порцыю ўдачы і прыемнага адпачынку. Аднак варта змагацца з ленасцю, не праграмуйце сябе на адмоўныя эмоцыі.



***Вадалей (21.01–19.02)***

Нават калі вы збіраецеся камусьці нашкодзіць, усё сыдзе з рук. Але лепей гэта не рабіць і памятаць, што лёс часта працуе бумерангам.



***Рыбы (20.02–20.03)***

Не праяўляйце асаблівую агрэсіўнасць і завышаныя патрабаванні да навакольных. А вось тыя, хто вядзе судовую цяжбу, могуць нечакана яе выйграць.

*КРЫЖАВАНКА*

**ад Анатоля Рогача, Вілейка**



**Па гарызанталях:** 1. Воклiч, які выражае захапленне, пахвалу, адабрэнне. 6. Адзінка зямельнай плошчы. 9. Слова як сэнсавая адзінка слоўнікавага складу мовы ў сукупнасці яго значэнняў і формаў. 10. Традыцыйная сялянская будыніна для захоўвання збажыны, маёмасці. 11. Паўночная марская рыба сям'і трасковых. 12. Спецыяльнае рыбалавецкае судна. 13. Сагнутая пад вуглом жалезная паласа ці дрот для замацавання драўляных частак будыніны. 16. Горад у Японіі на востраве Хансю, цэнтр прэфектуры. 19. Род пальмаў з веернымі буйнымі лістамі, што растуць, галоўным чынам, у трапічнай Азіі. 23. Сталіца дзяржавы, размешчанай на дзвюх частках свету. 24. Агароджа з бярвёнаў, штыкецін або мураваная. 25. Легендарны савецкі разведчык. 26. Беларускі і літоўскі географ–краязнаўца, аўтар кнігі "Па Віліі". 28. Гатунак сыру з плесневым грыбком, які адрозніваецца асаблівай вастрынёй смаку і паху. 30. Вёска Вілейскага раёна, якая ў перыяд з 1940 па 1954 год мела статус гарадскога пасёлка. 33. Спецыяльная вайсковая група. 35. Казацкі афіцэрскі чын. 38. Старэйшына, ганаровы чалавек у Сярэдняй Азіі і на Каўказе. 39. Краіна ў Азіі. 40. Адзін з мацнейшых сучасных шахматыстаў свету. 41. Спартыўнае спаборніцтва, па якім Беларусь займае адно з вядучых месцаў у свеце. 42. Прылада для клеймавання жывёлы. 43. Металічны знак, які паказвае на прыналежнасць да якой–небудзь арганізацыі або выдаецца на памяць аб якой–небудзь падзеі.

**Па вертыкалях:** 1. Балотная з доўгай дзюбай птушка, якая ваганнем пер'я ўтварае гукі, падобныя на бляянне баранчыка. 2. У старажытнагрэчаскай міфалогіі дачка Зеўса і Леды, жонка цара Спарты Менелая, якая лічылася надзвычайнай прыгажуняй. 3. Яркая зорка ў сузор'і Арла. 4. Народны пісьменнік Таджыкістана. 5. Пазнейшы перыяд каменнага веку (8–3 тысячагоддзі да н. э.). 6. Найбольш высокі жаночы голас. 7. Від пасажырскага транспарту. 8. Травяністая расліна, якая цвіце адзін раз у жыцці, з кветканосам да 12 метраў з мноствам кветак (да 17 тысяч). 14. У Расіі да рэвалюцыі: журнал, у які заносілі звесткі пра паводзіны вучняў або ваеннаслужачых (пераважна, у духоўных навучальных установах або кадэцкіх карпусах. 15. Акружэнне войск праціўніка з мэтай знішчэння. 17. Сталіца Паўднёваамерыканскай дзяржавы. 18. Архіпелаг з 78 каралавымі астравамі і рыфамі ў Ціхім акіяне. 20. Балгарскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, аўтар рамана–эпапеі "Пад ігам". 21. Італьянскі кампазітар, які з 1784 года працаваў у Расіі. 22. Музычна–драматычны твор. 27. Цэнтр золатапрамысловага раёна ў Сібіры. 29. Прэзідэнт міжнароднай федэрацыі футбола (ФІФА). 31. Музыкант шматструннага шчыпковага музычнага інструмента. 32. Серабрыста–белы тугаплаўкі метал. 33. Чалавек, які вядзе строгі ўклад жыцця. 34. Беларускі вучоны ў галіне агародніцтва і пладаводства, прафесар Горы–Горацкага земляробчага інстытута, які вывеў хатні агурок, што атрымаў яго імя. 36. Моцнае захапленне, заўзятасць, запал. 37. Араматычная смала.

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 52***

**Па гарызанталях:** 5. Дакар. 6. Тапер. 9. Нераст. 11. Аксуат. 12. Опера. 13. Ідал. 15. Тона. 17. Сак. 19. Раут. 20 Інія. 21. Ост. 23. Афар. 26. Гмах. 29. Атава. 31. Ляднік. 32. Луанда. 33. Анчар. 34. Базіс.

**Па вертыкалях:** 1. Мапед. 2. Лаланд. 3. Баксан. 4. «Неман». 7. Стол. 8. Маат. 10. Сена. 14. Атака. 16. Опіум. 17. Сто. 18. Кіт. 22. Скат. 24. Фантан. 25. Рака. 26. Гала. 27. Арарат. 28. Вясна. 30. Адліў.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



# ТэлеТыдзень 17 - 23 студзеня

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## – У якім стагоддзі і тысячагоддзі мы жывем?



*Алег Рогда,*
**навучэнец палітэхнікума:**
– Я лічу, што мы жывем у другім тысячагоддзі, а стагоддзе (пасля некаторага роздуму) цяпер дваццатае.



*Павел Несцер,*
**навучэнец палітэхнікума:**
– Першага студзеня надышло трэцяе тысячагоддзе і, адпаведна, XXI стагоддзе.



*Вячаслаў Цэлікаў,*
**студэнт 5 курса Белдзяржуніверсітэта:**
– Мяне здзіўляе людская неадукаванасць. На самой справе наступнае стагоддзе і, адпаведна, тысячагоддзе, прыйдуць толькі 1 студзеня 2001 года.



*Ірына,*
**студэнтка ўлікова—планавага тэхнікума:**
– Я адзначыла надыход трэцяга тысячагоддзя і цяпер жыву ў дваццаць першым стагоддзі.



*Саша,*
**тэхнік—электрык:**
– Цяпер трэцяе тысячагоддзе, але XXI стагоддзе яшчэ не надышло. Яго трэба чакаць яшчэ год.



*Людміла,*
**прадавец:**
– На двары цяпер другое тысячагоддзе і дваццатае стагоддзе.

ФОТААПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЮРЫЙ КАРПІЦКІ.

ПРЫЁМ КОЛАЎ У НАВАРКУ
Тэл. у Маладзечне 32009.
Вілейка. Шынамантаж (гараж к-ра "Мір").

Рэалізуем
зарадныя ўстройствы.
Тэл. у Маладзечне
60387, 69182, 68461.
Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

АДКРЫТЫ ПРОДАЖ КВЕТАК
Адрас: Маладзечна, вул. Валынца, д. 9, магазін "Фантазія
Тэл. у Маладзечне 70896, 77012.

РТСС прапануе:
- Для дзяцей і дарослых паездкі ў цырк і тэатры Мінска, экскурсіі па Беларусі.
- Адкрываем усе віды віз у Германію, Польшчу, Літву, Латвію.
- Прадаем ваўчары ў Польшчу, Чэхію.
- Арганізуем шоп-туры ў Маскву, Польшчу.

Звяртацца па адрасе: Маладзечна, гасцініца "Маладзечна", п. 402.
Тэл. у Маладзечне 74559.
Ліц. №612/3 Мін. спорту і турызму РБ ад 11.02.1998 г. да 11.02.2000 г.

АДНА ЗЯМЛЯ РГ
РЭКЛАМА!
Тэлефоны для даведак у Маладзечне
69667,53841.

МАЛАДЗЕЧАНСКІ МАГАЗІН
МЭБЛЯ
ВЯЛІКАЯ КАЛЕКЦЫЯ МЭБЛІ
У любы пакой
ПРАЦУЕМ з 10.00 да 19.00, па СУБОТАХ з 10.00 да 15.00
Даведкі, заказы - 63224, 63006, 63226
Падлягае абавязковай сертыфікацыі

**ПАНЯДЗЕЛАК, 17 студзеня.** *ІМЯНІНЫ. Праваслаўныя: Арцёма, Марка, Ніканора, Радзівона, Сцяпана, Трафіма, Цімафея. Каталіцкія: Антона, Яна.*

### БТ

**6.30** Доброе утро, Беларусь!
**7.00**, **9.00**, **11.00**, **13.00**, **15.00**, **17.00** с/с, **19.00**, **0.20** Новости.
**7.10** Доброе утро, Беларусь!
**8.15** Резонанс.
**9.10** Потребительская корзина.
**9.25** «Сегодня с вами...»
**9.50** Здоровье.
**10.15** Вас вызывает Спортландия.
**11.10** «Кофе с ароматом женщины» Сериал.
**11.55** «Каслинский гран-при».
**12.05** Теленавигатор.
**12.25** Музыка без границ.
**13.10** «С роботами не шутят» Х/ф.
**14.15** Мультфильм.
**14.30** «И это все есть красота».
**15.15** «Все любят цирк».
**15.45** Немецкий язык.
**16.15** ТВ - школе.
**16.45** Авто-парк.
**17.10** «А музыка звучит...»
**17.30** Сельчане.
**18.00** Добрый вечер, Беларусь! В программе: «Разговор в прямом эфире», «Что делать?»
**18.25** «Понедельник с «Христофором».
**18.40** Спортивные новости.
**19.15** Политические диалоги.
**19.45** Новые имена.
**19.55** «Кофе с ароматом женщины» Сериал.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.40** Событие.
**22.00** «Хождение по мукам» Х/ф.
**23.40** Криминальная хроника.
**23.45** Белорусский хит-парад.
**23.50** Третий тайм.

### ОРТ

**14.00** с/с, **17.00**, **23.30** Новости.
**14.20** «Битвы зверей» М/с.
**14.50** Что да как.
**15.05** Звездный час.
**15.30** ...До шестнадцати и старше.
**16.00** «Нежный яд» Сериал.
**17.25** «С легким паром!».
**17.55** Мы и время.
**18.45** Погода.
**18.50** Сериал «Девушки с характером».
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**21.00** Триллер «Прерванный полет: тысячелетие».
**22.50** Взгляд.
**23.45** «Майк Хаммер: Охота на мертвеца».

### РТР

**15.00** Магазин на диване.
**15.30** «Секретные агенты» М/с.
**16.00**, **18.00**, **20.00**, **0.00** Вести.
**16.20** «Башня».
**17.05** Сериал «Жара в Лос-Анджелесе - II».
**18.30** «Петербургские тайны» Сериал.
**19.25** «Друзья» Х/ф.
**20.45** Мелодрама «Любовь прощает все».
**22.40** Дежурная часть.
**22.55** «Спорт + ТВ».
**0.20** Магазин на диване.

### Культура

**7.05**, **11.30**, **13.30**, **19.30**, **23.00** Новости культуры.
**7.20** После новостей...
**7.40** Концерт для органа и струнного оркестра.
**8.05** «Лабиринт» Х/ф.
**9.30** Российский курьер.
**10.10** «Детский мир».
**10.35** «Вихрь цветов» Сериал.
**11.40** «Похищение из сераля» 1-й и 2-й акты.
**13.45** «Похищение из сераля» 3-й акт.
**14.30** «Осенние портреты».
**15.00**, **17.30** Новости.
**15.10** «Жил-был хомяк» Сериал.
**15.35** Ольга Лепешинская: сцены из жизни.
**16.10** Знаменитые замки Европы.
**16.35** «Вихрь цветов» Сериал.
**17.40** «Мир авиации».
**18.05** Власть факта.
**18.20** «О тех, кого помним и любим...»
**19.15** Вечерняя сказка.
**19.50** «Обыкновенная история» Спектакль. Ч. 1-я.
**20.55** После новостей...
**21.15** «Обыкновенная история» Спектакль. Ч. 2-я.
**22.30** Новый век российского пианизма.

### НТВ

**5.00**, **5.30**, **5.45**, **6.00**, **6.30**, **6.45**, **8,00**, **7.30** «Сегодня утром».
**5.15**, **7.15** Спорт, погода.
**5.20**, **6.20**, **17.40** Криминал.
**5.35**, **7.45** Интересное кино.
**5.50**, **7.20** Впрок.
**6.15** Карданный вал.
**6.35** Мультфильм.
**6.50** Большие деньги.
**7.55** «Она написала убийство».
**8.45** Фитиль.
**9.00**, **11.00**, **13.00**, **15.00**, **18.00**, **21.00** Сегодня.
**9.25** Вчера в «Итогах».
**10.45** Куклы.
**11.30** «Старый телевизор»: «Безымянная звезда».
**13.35** «Чистосердечное признание».
**14.00** Сериал «Улицы разбитых фонарей - II».
**15.35** Сериал «Лоис и Кларк. Новые приключения супермена».
**16.25** Впрок.
**16.40** Интересное кино.
**16.50** Сериал «Любовь и тайны Сансет Бич».
**18.40** Герой дня.
**19.00** «Скорая помощь».
**19.55** Совершенно секретно.
**21.45** Двое.
**22.30** «Итого».
**22.55** Сегодначко.
**23.35** Сегодня в полночь.
**23.55** «Антропология».

### ТНТ

**6.00** «Смотри, как они растут».
**6.30** М/с «Приключения Папируса»
**7.00** Сериал «Нэнси Дрю и ребята Харди»
**7.30** «На свежую голову!»
**8.00** Сериал «Вернбсть любви»
**9.00** Из жизни женщины.
**9.25** Сонник.
**9.30** Сериал «Диагноз: убийство»
**10.35** Сериал «На краю вселенной».
**11.30** Сериал «Сиквест» 1-я с.
**12.30** М/с «Таинственный мир Санта-Клауса»
**13.00** Мультфильм.
**13.10**, **23.05** Телемагазин.
**13.30** Сериал «Марисоль»
**14.30** Сериал «Незабываемая».
**15.30** Сериал «Звездные следопыты».
**16.00** М/с «Приключения Папируса»
**16.30** Сериал «Нэнси Дрю и ребята Харди»
**17.00** Из жизни женщины.
**17.30** Неизвестная Россия.
**18.00** Мировой футбол.
**18.25** «Глобальные новости».
**18.30** Сериал «Диагноз: убийство».
**19.30** Европейский футбол на ТНТ.
**20.30** Мелодрама «Желание любви».
**23.20** «Глобальные новости».
**23.25** Лучшие матчи НХЛ.
**0.40** Неизвестная Россия.

### ТВ–6

**6.05**, **12.05**, **14.00** День за днем.
**7.40**, **17.10** Дорожный патруль.
**8.00**, **12.00** Новости.
**8.10** Кинотеатр ТВ-6: «Шерлок Холмс. Последний вампир».
**10.00** ЦитаДЕНЬ.
**10.10** Скандалы недели.
**10.35** «Спасибо за покупку!»
**10.45** Нью-Йорк, Нью-Йорк.
**11.15** Новости спорта.
**11.45** «Спасибо за покупку!»
**14.05** «Спасибо за покупку!»
**14.30** Сериал «Просто Мария».
**15.20** Краткий курс.
**15.35** «Спасибо за покупку!»
**15.50** Знак качества.
**16.05** Сериал «Легенда в Вильгельме Телле»
**16.40** Диск-канал.
**17.30** Сериал «Последний миф».
**18.05** Сериал «Закон пустыни».
**19.00** Новости дня.
**19.25** «Место встречи».
**19.45** «Вы - очевидец».
**20.35** Сериал «Пси-фактор».
**21.25** «Любишь - смотри».
**21.40** Дорожный патруль.
**22.00** Новости.
**22.15** ЦитаДЕНЬ.
**22.20** Сериал «Кувалда-2»
**22.50** Те Кто.
**23.05** Диск-канал.
**23.40** Дорожный патруль.

### ТВ–ЦЕНТР

**6.00**, **7.15** «Настроение».
**7.00**, **10.00**, **13.00**, **16.00** События.
**8.00** «Ну и цирк.»
**8.50** «Петровка, 38».
**9.00** «Узурпаторша».
**10.15** Телеканал «Дата».
**11.00** Детектив «Вход в лабиринт» 1-я с.
**12.20** Телеканал «Дата».
**13.30** Сериал «Лесси».
**14.00** Сериал «Десять заповедей» 1-я с.
**15.00** «Регионы: прямая речь».
**15.30** Сериал «Будем знакомы».
**16.15** Молодежный канал «Да.»
**16.45** «На пятачке».
**17.15** «Деловая Москва».
**17.30** «Просто Россия».
**18.00** «Навсегда» Сериал.
**18.45** Вечерняя сказка.
**19.00**, **22.00** События.
**19.55** «Первая ласточка весны не делает».
**21.45** «Петровка, 38».
**22.10** «Беседка ТВЦ».
**22.50** Сериал «Омерта».
**23.45** «Постскриптум».

### АСТ

**5.00** Мультфильмы.
**5.30**, **8.30**, **11.30**, **14.30** «Факт».
**5.45** «Манекенщица» Сериал.
**6.45** Экономика для вас.
**6.55** Сериал «Реки и каналы».
**7.25** Евразийский телефорум–99.
**7.55** «Галерея знаменитостей XX века».
**8.00** «Маленький бродяга» Сериал.
**8.45** «Мечта моя» Сериал.
**9.40** Музыкальная мозаика.
**9.55** «Документальный экран».
**10.55** Целебные советы.
**11.00** Программа мультфильмов.
**11.40** «Мужские заботы».
**12.10** «Счастье» Сериал.
**13.10** Сериал «Реки и каналы».
**13.40** «Чудесные уроки».
**13.55** «Одиссеи животных»
**14.00** «Маленький бродяга» Сериал.
**14.40** Хрустальный мир природы.
**14.55** Евразийский телефорум–99.
**15.25** Х/ф «Подросток» 5-я с.
**16.45** Музыкальная мозаика.
**16.55** «Галерея знаменитостей XX века».
**17.00** Алло, Россия!
**17.30**, **20.30**, **23.30**, **2.30** «Факт».
**17.45** «Хищник» Сериал.
**18.45** «Точка зрения».
**19.00** «Люди и судьбы».
**19.55** «Прекрасный мир моды»
**20.00** Спорт без границ.
**20.45** Вас приглашает Светлана Лазарева.
**21.15** Экономика для вас.
**21.25** «Манекенщица» Сериал.
**22.25** «Мировые сокровища культуры».
**22.55** «Галерея знаменитостей XX века».
**23.00** «Только для женщин».
**23.45** «Мечта моя» Сериал.
**0.45** «Точка зрения».
**1.00** «Люди и судьбы».
**1.55** «Одиссеи животных»
**2.00** «Мужские заботы».
**2.45** «Хищник» Сериал.
**3.40** Хрустальный мир природы.
**3.55** «Документальный экран».
**4.55** «Прекрасный мир моды»

### ЕВРОСПОРТ

**9.30**, **23.30**, **2.00** Ралли.
**10.00**, **14.00** Теннис.
**20.30**, **0.00** Футбол.
**22.30** Автогонки на льду.
**23.00** Мотоспорт.
**1.30** Бокс.

### 8 канал

**17.45** Телемагазин.
**18.00** Программа К. Копленда.
**18.30** Музыкальная программа.
**18.40**, **19.40** «Хорошие новости».
**18.50**, **19.50** «Вопрос, конечно, интересный».
**19.00**, **20.00** «Польский час».
**19.10**, **20.10** «Ой, кто это?»
**19.20**, **20.20** «Спорим?...»
**19.45** «К-видео Топ-8».
**20.30** «Вечарніца».
**20:40**, **23.10** Погода на завтра.
**20.45** Музыкальный фильм «Вестсайдская история».
**23.15** «Today».
**23.30** «Тин-клуб-радио».

*ОРТ 21.00*
**«ПРЕРВАННЫЙ ПОЛЕТ: ТЫСЯЧЕЛЕТИЕ»**
Фантастический боевик. Далекое будущее. Земная цивилизация, состоящая из мутантов, не способных к продолжению рода, находится на грани вымирания. Единственный путь к спасению лежит через прошлое человечества. Через Врата Времени спецотряды из будущего похищают людей. Долгое время в нашем столетии люди ничего не подозревают об этом.

*РТР 20.45 Мировой бестселлер.*
**«ЛЮБОВЬ ПРОЩАЕТ ВСЕ»**
Мелодрама. Талантливая, подающая надежды журналистка резко меняет стиль жизни. Неожиданно для всех она уезжает на ранчо к друзьям, где и встречает свою любовь. Но в результате несчастного случая она становится инвалидом, и любимый человек бросает ее. Как жить дальше?

*ТВ—ЦЕНТР 14.00*
**«ДЕСЯТЬ ЗАПОВЕДЕЙ»**
1-я серия. Сериал. История жизни Моисея от рождения в египетском плену до дарования десяти божественных заповедей на горе Синай. Режиссер - С. Де Милль. В ролях: Ч.Хестон, Ю.Бриннер, Э.Бакстер, Э. Дж. Робинсон, Дж.Дерек. США, 1956 г.

*Обозначения в программе:*
с/с — с сурдопереводом; м/с — мультсериал; м/ф — мультфильм; х/ф — художественный фильм; с—п — сериал; ч. — часть; с. — серия; д/ф — документальный фильм.

ПЕРАДРУК ПРАГРАМЫ ЗАБАРОНЕНЫ.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

